№5 (168)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Сакавік 2014 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**ЗВР Беларуси сократились еще на 500 млн. долларов.**

По итогам первых двух месяцев 2014 года общее снижение золотовалютных резервов Беларуси составило порядка 500 млн. долларов. Об этом свидетельствуют данные Национального банка.

По итогам февраля золотовалютные резервы Республики Беларусь в определении стандарта МВФ сократились на 80 млн. долларов США и, по предварительным данным, на 1 марта 2014 года составили 6 млрд. 147,8 млн. долларов США в эквиваленте.

В январе, напомним, золотовалютные резервы сократились более чем на 420 млн. долларов.

### У Прыдняпроўі

**В Могилевской области количество интернет-пользователей снизилось на 65 тысяч человек.**

Согласно данным, предоставленным генеральным директором портала tut.by Александром Чеканом, отток интернет-пользователей на Могилевщине происходил с одинаковой динамикой как в областном центре, так и в целом по области. В декабре 2013 года в регионе интернетом пользовались на 11% меньше, чем в декабре 2012 года. Это является самым большим падением среди всех областей.

### У раёне

**Сярэдняя заработная плата па народнай гаспадарцы Бялыніцкага раёна ў студзені 2014 года склала 4284,4 тысячы рублёў.**

Нагадаем, што ў снежні 2013 года бялынічане атрымалі ў сярэднім па 4626,8 тысяч рублёў.

Такім чынам, у студзені 2014 года сярэдні заробак жыхароў Бялыніцкага раёна знізіўся ў параўнанні са снежнем 2013 года на 342,4 тысячы рублёў.

# БЯЛЫНІЦКІ РАЁН ВЫЖЫВАЕ ТОЛЬКІ ЗА КОШТ ДАТАЦЫЙ

***Узровень датацыйнасці бюджэта Бялыніцкага раёна ў 2013 годзе склаў 66,1%. З агульнай сумы даходаў Бялыніцкага раёна за 2013 год у памеры 211 397 506,4 тысяч рублёў бязвыплатныя паступленні з абласнога і рэспубліканскага бюджэтаў склалі 147 603 393,5 тысяч рублёў.***




Такім чынам, шаноўныя чытачы, не асабліва давярайце сладкагалосым рапартам нашых слаўных бялыніцкіх чыноўнікаў, якія з імпэтам распавядаюць пра тое, якіх небывалых поспехаў дасягнуў Бялыніцкі раён за апошнія гады.

Поспехаў гэтых якраз і не вельмі шмат, проста яны навучыліся "выцыганіваць" больш грошай з бюджэтаў іншых узроўняў і, дзякуючы гэтаму, рабіць нешта добрае для добраўпарадкавання гарадскога пасёлка і тэрыторыі Бялыніцкага раёна. Тым больш, чаму б хоць гэтага не рабіць – па дадзеных газеты "Наша ніва", на кожнага жыхара Бялыніцкага раёна ў 2013 годзе прыйшлося па 851 долару датацый з рэспубліканскага і абласнога бюджэтаў, мы з'яўляемся адным з лідараў па ўзроўню датацыйнасці ў нашай Магілёўскай вобласці.

Што ж датычыцца нейкага росквіту прамысловасці і сельскай гаспадаркі ў Бялыніцкім раёне, то казаць пра гэта можна толькі з вялікай доляй скептыцызму.

З прадпрыемстваў Бялыніцкага раёна нейкімі поспехамі за апошні час можа пахваліцца хіба толькі ААТ "Бялыніцкі пратэінавы завод", які здолеў значна павялічыць выпуск сваёй прадукцыі. Аднак, калі ўзгадаць, колькі грошай "убухалі" з бюджэту за апошні час у мадэрнізацыю "мяса-касцянога" (а менавіта так называюць прадпрыемства простыя бялынічане), то значнасць гэтых поспехаў чамусьці адразу прападае…

Што ж датычыцца сельскай гаспадаркі, то тут пра нейкія станоўчыя вынікі наогул нават разважаць смешна. Толькі падумайце, паважаныя чытачы - вытворчасць валавай прадукцыі ва ўсіх катэгорыях гаспадарак у Бялыніцкім раёне ў 2013 годзе к узроўню 2012 года склала 96,4%.

*(Заканчэнне на стар. 2)*

# БЯЛЫНІЦКІ РАЁН ВЫЖЫВАЕ ТОЛЬКІ ЗА КОШТ ДАТАЦЫЙ

(Заканч. Пачатак на стар. 1)

Вытворчасць прадукцыі раслінаводства і жывёлагадоўлі ў 2013 годзе ў параўнанні з 2012 складае адпаведна 90,2% і 100,7%. Паказчыкі ў аслінаводстве цалкам праваленыя. Здаецца, ёсць нейкі невялікі рост на 0,7% у жывёлагадоўлі ў параўнанні з 2012 годам, аднак калі пачынаеш паглыбляцца ў лічбы, адразу разумееш, што рост гэты толькі на паперы. Бо ската ў жывой вазе вырашчана ў 2013 годзе толькі 98,7% да ўзроўню года 2012. На паперы быццам бы вырасла ў Бялыніцкім раёне ў 2013 годзе на 1,3% вытворчасць малака, аднак рэалізавана было яго чамусьці на 0,2% менш, чым у 2012 годзе. Таварнасць малака знізілася на 1,3%, можна нават падумаць, што яго больш выпілі цяляты. Думаю, што яны яго ў вочы не бачылі, проста патрэбна было "намаляваць" адпаведныя паказчыкі…




А колькі бюджэтных грошай "убухана" у будаўніцтва і рэканструкцыю ферм, і калі яны пачнуць даваць аддачу пры сучасным узроўні прадукцыйнаці ў Бялыніцкім раёне…

Тым больш, што эканомікай зараз кіраўніцтву нашага раёна займацца няма калі – усе занятыя высяканнем хмызняка і навядзеннем парадку на зямлі напярэдадні чэмпіянату свету па хакею. Для гэтага ў бюджэце раёна знаходзяцца грошы, задзейнічаюцца людзі з самых розных арганізацый. Не сумняваюся, што прыгожы малюнак для замежных гасцей будзе створаны як мае быць.

Толькі справы ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы Бялыніцкага раёна ад гэтага лепшымі не стануць.

***Іван Барысаў***

# ПРЫГОЖА ЖЫЦЬ ЧЫНОЎНІКАМ НЕ ЗАБАРОНІШ

Галоўнае ўпраўленне юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама набыла сабе аўтамабіль за 33 тысячы долараў. Гэта стала Skoda Superb у камплектацыі Ambition.

Гэта адзін з найлепшых аўтамабіляў чэшскай вытворчасці. Абыйшоўся ён у адпаведнасці з сайтам дзяржзакупак у 330 660 000 рублёў.

Таксама свой аўтапарк вырашылі адрамантаваць і супрацоўнікі Упраўлення КДБ Магілёўскай вобласці. Яны закупілі запчастак для сваіх машын на суму у 9 тысяч долараў, піша сайт "Малако".

Сярод аўтапарка супрацоўнікаў спецслужбы акрамя ГАЗаў і ВАЗаў фігуруюць аўтамабілі Аўдзі А8 4,2Q 2000 г.в., Вольва S80 2,4 (2006 г.в)., Опель Астра Н 1,8 (2006 г.в)., Таёта Аўрыс 1,6 (2008 г.в). і Шкода Актавіа 2,0Т (2007 г.в).

Тым часа ў суседняй Украіне пасля адбыўшайся там сацыяльнай рэвалюцыі на продаж праз аўкцыён будзе выстаўлена 1200 аўтамабіляў чыноўнікаў. Усе атрыманыя ад продажу грошы пойдуць у дзяржаўны бюджэт.

***Якуб Корсак***

# СПЕЦИАЛИСТЫ ИЗ "НОВОЙ ДРУТИ" ПОЕХАЛИ В США

***Специалисты могилевского АПК знакомятся с опытом молочного скотоводства в США***

В американском штате Висконсин с деловым визитом находится делегация работников белорусского АПК. В ее состав включены и представители Могилевщины – специалисты молочного скотоводства СПК «Рассвет» Кировского и ОАО «Новая Друть» Белыничского районов. Организовало поездку, рассчитанную на 7 дней, Могилевское отделение Белорусской торгово-промышленной палаты.

Как отметил заместитель генерального директора МО БелТПП Николай Ермак, белорусские специалисты посетили молочные фермы США, где ознакомились с новейшими достижениями в молочном скотоводстве (генетикой, селекцией, управлением стадом), опытом по повышению эффективности и прибыльности производства молока, а также получили консультации ведущих ветеринаров фирмы CRI по вопросам вакцинации, содержания, кормления животных.

Штат Висконсин считается «молочной фермой Америкой». А холдинг CRI является мировым лидером в сфере организации молочного и мясного скотоводства.

***Геннадий Александров, "МВ"***

# ВОРУЮТ ВСЁ

Три ведра похитил неработающий житель Белыничей у 89-летнего пенсионера. Об этом рассказали в отделении информации и общественных связей УВД.

52-летний ранее судимый местный житель пробрался на веранду дома по улице Лорченко и схватил первое, что попалось на глаза – три ведра. Радоваться «приобретению» долго не пришлось, сотрудники уголовного розыска задержали злоумышленника вместе с пропажей. Похищенные ведра вернули владельцу, возбуждено уголовное дело.

# ПОЧЕМУ ОНИ ТАК БОЯТСЯ ПРАВДЫ?

***Большинство претендентов в кандидаты в депутаты местных Советов от кампании «Говори правду» в Могилёвской области были отсеяны ещё на этапе регистрации.***



*Оксана Самуйлова*

Избирательные комиссии разных уровней в разных районах области принимали решения, как под копирку, и отказывали потенциальным кандидатам из-за будто бы имеющихся неточностей, обнаруженных при проверке подписей избирателей в подписных листах за их выдвижение.

Члены комиссий с каменными лицами единогласно поднимали руки за отказ в нашей регистрации и так же единогласно голосовали за «провластных», почему-то не обнаруживая в их документах никаких неточностей и помарок.

Пускай это останется на их совести…

В Бобруйске из девяти претендентов в отсеяли восемь, в Белыничах, Круглом и Шклове вообще не оставили ни одного.

Я сама выдвигалась кандидатом в депутаты Могилёвского областного Совета в Бобруйске и сама получила отказ в регистрации будто бы из-за имеющихся неточностей в подписных листах: мол, собирались не в тех домах, что было нужно, даты ставили не те люди и так далее. Осадок остался очень неприятный, обидно было до слёз - ведь я хорошо знала, что подписи собирались без всяких нарушений, да и, признаюсь честно, всё-таки в глубине души теплилась надежда...

Мне депутатский мандат нужен не для какой-то своей прихоти или для того, чтобы потешить своё самолюбие. Просто хотелось иметь больше возможностей помогать людям в решении их проблем, а также иметь возможность доносить эти проблемы до власть предержащих в моей родной области.

К сожалению, не получилось. Не захотели наши чиновники - ведь именно они, а не избирательные комиссии фактически принимали решение о регистрации кандидатов в депутаты местных Советов, это ни для кого не секрет.

Скажите, ну зачем местным вертикальщикам какие-либо проблемы в период предвыборной кампании или, тем более, в местном Совете? Ясно, что властям абсолютно не нужны никакие реальные альтернативные кандидаты, их вполне удовлетворяют назначенные для этого статисты, которые и будут изображать некую «альтернативу».

Тем более кандидаты от кампании «Говори правду», которые действительно пользуются авторитетом и уважением у людей в своих избирательных округах.

Потому и «вырезали» большинство наших активистов, ведь именно они реально оказывают помощь простым людям и не дают спокойно жить чиновникам: добиваются ремонта дорог, больниц, детских площадок и общежитий в своих городах и посёлках.

Конечно, мне обидно за своих товарищей, которые надеялись на регистрацию и строили планы, как сделать интересные предвыборные кампании.

Но жизнь продолжается, и я верю, что наши депутатские должности впереди. Ну а сейчас будем делать всё от нас зависящее, чтобы защищать интересы простых людей. Ведь те депутаты, что есть сегодня, практически ничего не делают для своих избирателей. Обещаю: не дадим спать в шапку уже практически назначенным преемникам прежних статистов.

Я верю, что всё у нас получится.

***Оксана Самуйлова***

# У БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ РАСКАЖУЦЬ ПРА СУДЗІМАСЦІ КАНДЫДАТАЎ У ДЭПУТАТЫ

***Незалежны журналіст з Бялыніцкага раёна Барыс Вырвіч змог атрымаць тлумачэнні ад старшыні Бялыніцкай раённай выбарчай камісіі Ірыны Фурсавай, чаму ж у газеце “Зара над Друцю” у апублікаваных звестках пра кандыдатаў у дэпутаты Бялыніцкага райсавета не была ўказана інфармацыя пра маючыеся ў кандыдатаў судзімасці.***

Старшыня Бялыніцкай раённай выбарчай камісіі, начальнік аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі мясцовага райвыканкама Ірына Фурсава паведаміла журналісту, што, не размясціўшы інфармацыю пра судзімасці кандыдатаў у раённай газеце, раённая выбарчая камісія дзейнічала строга ў рамках беларускага заканадаўства, бо размясціла інфармацыю пра судзімасці ў дадзеных кандыдатаў у дэпутаты, змешчаных на інтэрнэт-сайце Бялыніцкага райвыканкама. У артыкуле ж 68 Выбарчага Кодэкса РБ гаворыцца, што звесткі пра кандыдата ў дэпутаты выбарчая камісія можа не толькі накіроўваць у друк, а і інфармаваць выбаршчыкаў іншым спосабам, што і зрабіла Бялыніцкая раённая выбарчая камісія.

Таксама Ірына Уладзіміраўна паабяцала незалежнаму журналісту, што дадзеныя пра маючыеся ў кандыдатаў у дэпутаты райсавета судзімасці будуць апублікаваны ў інфармацыйных матэрыялах пра кандыдатаў, якія рыхтуюцца да выбараў.

“Зразумела, што наша слаўная раённая выбарчая камісія проста даводзіць інфармацыю пра маючыеся ў кандыдатаў у дэпутаты судзімасці такім спосабам, каб пра іх даведалася як мага менш выбаршчыкаў, пры гэтым не парушаючы літары закона,

*(Заканчэнне на стар. 8)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ЧАМУ Ў НАС «ЧТО-ТО НЕ ТАК»?

***Апошнія месяцы мінулага, 2013 года і пачатак 2014-га былі насычаны шматлікімі нарадамі, працоўнымі паездкамі, разнастайнымі паседжаннямі беларускага чынавенства па “разрульванню” праблемаў у розных галінах эканомікі краіны. За гэты час кіраўнік дзяржавы разам са сваімі бліжэйшымі саратнікамі паспрабаваў разабрацца з праблемамі на прадпрыемствах дрэваапрацоўкі, у будаўнічым комплексе, а таксама ў ЖКГ і сельскай гаспадарцы.***

Вынікі некаторых “разрульванняў” вызывалі вялікі рэзананс у разнастайных сродках масавай інфармацыі і зацікаўленасць у грамадстве.

Найбольш рэзананснай па выніках прымаемых мераў з боку кіраўніка краіны аказалася працоўная паездка А.Лукашэнкі на ААТ “Барысаўдрэў” у лістападзе 2013 года. За неналежнае выкананне даручэнняў па мадэрнізацыі вытворчасці дадзенага прадпрыемства былі вызвалены ад пасады старшыня Мінскага аблвыканкама Б.Батура, намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі А.Тур, старшыня канцэрна “Беллеспаперпрам” А.Пераслаўцаў, генеральны дырэктар ААТ “Будаўнічы трэст № 21” і дырэктар КУП Інстытут “Барысаўпраект”. Шэраг чыноўнікаў атрымалі разнастайныя дысцыплінарныя пакаранні. Як, напрыклад, кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта А.Кабякоў і старшыня Камітэту дзяржаўнага кантролю А.Якабсон — па строгай вымове.

Тут жа прэм‘ер-міністру Беларусі Міхаілу Мясніковічу было даручана падрыхтаваць да 10 снежня даклад аб ходзе выканання ўсіх рашэнняў кіраўніка дзяржавы па мадэрнізацыі прадпрыемстваў дрэваапрацоўчай прамысловасці, а Адміністрацыі прэзідэнта — па выніках гэтага даклада ўнесці прапановы аб адпаведнасці пасадзе першага віцэ-прэм‘ера Уладзіміра Сямашкі. Старшыня КДК Якабсон атрымаў даручэнне стварыць працоўнаю групу дзеля праверкі праграмы мадэрнізацыі дрэваапрацоўчай галіны і да 1 снежня 2013 г. прадаставіць справаздачу аб выніках работы групы.

Персанальная адказнасць за далейшае якаснае і своечасовае выкананне мерапрыемстваў праграмы мадэрнізацыі прадпрыемстваў дрэваапрацоўчай галіны ўскладзена на старшыняў аблвыканкамаў, кіраўніцтва “Беллеспаперпрам”, кіраўнікоў прадпрыемстваў, будаўнічых і праектных арганізацый.




4 лютага 2014 года старшыня КДК Якабсон, згодна распараджэння кіраўніка краіны, атрымаў яшчэ адно даручэнне. Ён узначаліў чарговую працоўную групу па вывучэнню праблемных пытанняў у жыллёва-камунальнай гаспадарцы і выпрацоўцы рашэнняў, накіраваных на паляпшэнне спраў у дадзенай галіне. Камісія па ЖКГ створана па прынцыпу ўжо дзеючай на той час Рэспубліканскай камісіі па вывучэнню сітуацыі ў будаўнічым комплексе пад началам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта.

У склад працоўнай групы па ЖКГ увайшлі кіраўнікі шэрагу рэспубліканскіх органаў дзяржкіравання, мясцовых выканкамаў, кіраўнікі асобных навуковых і праектных арганізацый.

Працоўная група павінна выпрацаваць і рэалізаваць прапановы па павышэнню эфектыўнасці дзейнасці ЖКГ, упарадкаванню фармавання сабекошту жыллёва-камунальных паслуг і т.д. Свае напрацоўкі група па ЖКГ павінна прадаставіць да 31 мая 2014 года.

У гэты ж дзень, 4 лютага, кіраўнік краіны стварыў і працоўную групу пад кіраўніцтвам прэм’ер-міністра М.Мясніковіча для вырашэння праблемных пытанняў у аграпрамысловым комплексе. У склад групы ўвайшлі 26 чалавек, у тым ліку старшыня прэзідыуму НАН, намеснік упраўляючага справамі прэзідэнта, старшыні Белстату, Дзяржмаёмасці, Мінскага аблвыканкама; міністр сельскай гаспадаркі разам са сваім намеснікам, намеснікі міністраў эканомікі, фінансаў, МУС, па падатках; генеральныя дырэктары аграрных навукова-практычных цэнтраў, прадстаўнікі банкаў, вядомыя кіраўнікі і спецыялісты сельгаспрадпрыемстваў…

Перад групай па АПК пастаўлена задача да 10 сакавіка 2014 года прадставіць комплексны даклад аб развіцці АПК і выпрацаваць прапановы па павышэнні прыбытковасці, эфектыўнасці працы і рэнтабельнасці арганізацый сельскай гаспадаркі.

Чытаючы інфармацыю аб складзе створаных камісій, хочацца спадзявацца, што “слугі” беларускага народу адказна справяцца з пастаўленымі перад імі задачамі і зробяць усё неабходнае для выпраўлення выяўленых хібаў у розных галінах эканомікі. Прымуць меры па вяртанню

*(Працяг на стар. 5)*

# ЧАМУ Ў НАС «ЧТО-ТО НЕ ТАК»?

(Працяг. Пачатак на стар. 4)

разрабаваных фінансавых сродкаў, выдзеленых на мадэрнізацыю прадпрыемстваў дрэваапрацоўкі, будаўніцтва жылля, іншых аб'ектаў, і скарыстаюць іх эфектыўна на неабходныя мэты. Распрацуюць прапановы па павышэнню эфектыўнасці працы сельгаспрадпрыемстваў і прадпрыемстваў ЖКГ, што прывядзе да зніжэння коштаў паслуг ЖКГ і прадуктаў харчавання.

Ідзе час. А як жа працуюць створаныя камісіі? Ці выконваюць яны распараджэнні кіраўніка краіны?

Найбольш эфектна, загадкава і нечакана завяршылася "разрульванне" праблемаў у пытаннях мадэрнізацыі прадпрыемстваў дрэваапрацоўкі. Крыху больш чым праз месяц пасля наведвання Барысава кіраўніком краіны, на ААТ "Барысаўдрэў" у ноч з 17 на 18 снежня 2013 года адбыўся пажар. А пажар прыпыніў і ўсялякія размовы на гэтую тэму.

Нягледзечы на заканчэнне адведзенага тэрміну для прадстаўлення комплекснага дакладу аб развіцці галіны і выпрацоўцы прапаноў, пакуль не відаць пазітыўных зрухаў і ад групы па АПК. Наадварот, за гэты час адбылося значнае падвышэнне коштаў на малако і малочныя прадукты.

Па інфармацыі ў СМІ, актыўна працуе толькі група па ЖКГ пад кіраўніцтвам Якабсона. З боку Міністэрства ЖКГ на разгляд камісіі ўжо ўнесены шэраг прапановаў па значнаму змяншэнню сабекошту вады для насельніцтва краіны, прапановы па змене схемы фінансавання прадпрыемстваў ЖКГ з мэтай дасягнення раўнамернасці і рытмічнасці пакрыцця іх расходаў, узняты іншыя праблемныя пытанні. У тым ліку і пытанні, закладзеныя ў адносінах прадпрыемстваў ЖКГ з мясцовымі выканаўчымі органамі, для вырашэння іх на дзяржаўным узроўні.

У той жа час камісіяй ускрыты некаторыя факты, па якіх КДК у рамках сферы сваіх абавязкаў павінен быў даўно прыняць неабходныя меры, а не чакаць вынікаў працы камісіі. Так, пры атрыманні прадпрыемствамі




ЖКГ цеплавой энэргіі з ведамасных крыніц, дзе ўладальнікі не зацікаўлены ў паніжэнні сабекошту сваёй прадукцыі, і далейшай пастаўцы яе насельніцтву, розніца паміж тарыфамі нярэдка складае велічыню ў 10-15 разоў. Як, напрыклад, у Рэчыцы, дзе мецізны завод пастаўляў цяпло камунальнікам па 1 млн. 323 тыс. руб. за 1 Гкал, пры тым, што камунальнікі пастаўлялі яго насельніцтву па фіксаваным кошце ў 80 тыс. 570 руб. за 1 Гкал.

На пакрыццё сабекошту камунальных паслугаў, такім чынам, з бюджэту краіны, сфармаванага за кошт падаткаў насельніцтва і прадпрыемстваў, расходуюцца аграмадныя сродкі, а дзяржаўныя чыноўнікі імкнуцца пераканаць насельніцтва ў тым, што грамадзяне аплочваюць толькі 23% ад затрат на іх вытворчасць.

Атрымоўваецца замкнёнае кола. Усе, ад прэзідэнта да чыноўнікаў на месцах, ведаюць аб крызіснай сітуацыі ва ўсіх галінах беларускай эканомікі, аб правале праграм па мадэрнізацыі вытворчасці, усе пра гэта кажуць, але ніхто нічога не прадпрымае канкрэтнага, каб гэтую сітуацыю выправіць да лепшага.

У дадзеным становішчы толькі само грамадства можа кардынальным вобразам змяніць сітуацыю. Гэта, як, да прыкладу, прапануе кандыдат ў дэпутаты Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў ад Партыі БНФ Уладзімір Падгол — праз стварэнне БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКАГА АНТЫКРЫЗІСНАГА КАМІТЭТУ (у складзе кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў ад дэмакртычных арганізацый). А надалей КАМІТЭТ разам з выбаршчыкамі на месцах фармуе ГРАМАДСКАГА ПРЭЗІДЭНТА. Дадзены ворган прапануецца сфармаваць у час кампаніі мясцовых выбараў 2014 года з тэрмінам дзеяння да наступных выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў.

Толькі аб'яднаўшыся грамадзяне краіны змогуць кантраляваць працу чыноўнікаў, прымусіць іх добрасумленна выконваць працоўныя абавязкі, не дапусціць раскрадання імі фінансавых сродкаў.

Беларускаму грамадскаму антыкрызіснаму камітэту прапануецца звярнуцца да грамадзян Беларусі з наступнымі тэзамі:

1. Беларускім чыноўнікам — беларускія аўтамабілі.

Запатрабаваць ад беларускіх чыноўнікаў у службовых і асабістых мэтах скарыстоўваць аўтамабілі толькі беларускай зборкі "Саманда", "Джылі". Усе аўтамабілі заходнееўрапескай, амерыканскай, японскай, карэйскай вытворчасці перадаць у карыстанне ветэранам вайны. Ветэраны — пераможцы ў Вялікай Айчыннай Вайне павінны карыстацца аўтамабілямі не горшымі, чым ветэраны пераможанай Германіі, або Японіі.

2. Беларускім чыноўнікам — беларускія кватэры з нарматывамі,

(Заканчэнне на стар.6)

# ЗАИКО: ЛУКАШЕНКО НЕЛЬЗЯ ДАВАТЬ НИКАКИХ КРЕДИТОВ

***Брать в долг во время экономического кризиса сравни покупке кожаных сидений в поломанную машину.***




Об этом заявил руководитель аналитического центра «Стратегия», экономист Леонид Заико, комментируя сайту charter97.org отказ АКФ ЕврАзЭС предоставить Минску шестой транш кредита.

«Я хочу сказать, что ситуация, в которой оказалась белорусская экономика не тяжелая. Это какие-то чувственные экспликации. Ситуация на самом деле кризисная. Беларусь наконец-то вступила в нормальный классический кризис. То есть, с точки зрения экономики, у нас сейчас идет падение ВВП, объемов промышленного производства на 7% по январю и падение всех основных показателей. Это должно заставить тех людей, которые считают себя ответственными, принять достаточно решительные меры, а не устраивать какие-то показательные встречи с биатлонистами, чтобы просто замаскировать провал экономической политики», - считает эксперт.

Экономист подчеркнул, что в условиях кризиса брать деньги в долг достаточно опасно.

«Потому что, скажем, у вас сломалась машина, вы стоите в поле, но при этом покупаете кожаные сиденья. Но это не нужно – машину просто надо отремонтировать. Поэтому белорусское производство нуждается в обновлении, нуждается в том, чтобы произвести сокращение объемов производства. Скажем, в транспортном машиностроении уже в два раза сократились объемы. И ошибка белорусского руководства заключается в том, что оно пока видит только лишь проблему реализации. Оно видит проблему в том, что не продаются товары. Но это не проблема, это следствие. А проблема заключается в том, что сами предприятия пока не могут принимать эффективные решения», - отметил он.

По мнению аналитика, «вопрос, почему не поступает транш, совершенно естественный».

«Даже двоечнику заочного отделения факультета МГУ будет понятно, что если в стране ВВП вырос меньше, чем на 1%, а зарплата выросла на 18%, то этой стране деньги давать не надо. Потому что все они будут использованы неэффективно», - заключил Леонид Заико.

Напомним, Антикризисный фонд ЕврАзЭС назвал невыполненные Беларусью параметры кредитной программы. Вопрос о выделении Беларуси шестого транша кредита Совет АКФ планирует вновь рассмотреть в третьем квартале 2014 года.

## ЧАМУ Ў НАС «ЧТО-ТО НЕ ТАК»?

*(Заканч. Пачатак на стар. 4, 5)*

прыдуманымі імі; ў 10 м кв. на члена сям'і (для Мінску), або 15 м кв. — для астатніх рэгіёнаў Беларусі. У той час як у Еўропе гэты нарматыў складае ад 40 да 60 м кв.

3. Беларускім чыноўнікам — мэблю беларускай вытворчасці.

Запатрабаваць ад беларускіх чыноўнікаў выкарыстанне як у службовых кабінетах, так і асабістых кватэрах толькі мэблю беларускай вытворчасці.

4. Беларускім чыноўнікам — беларускія тавары.

Запатрабаваць ад беларускіх чыноўнікаў карыстацца вопраткай і абуткам толькі беларускай вытворчасці.

5. Беларускім чыноўнікам — беларускія грошы.

Забараніць беларускім чыноўнікам у паўсядзённым жыцці карыстацца валютай іншых краін (долар, еўра, злоты, расійскі рубель, літ, валюты іншых краін).

6. Беларускім чыноўнікам — беларускія бальніцы.

Ліквідаваць статус спецыяльных медычных ўстановаў для высокапастаўленых асоб. Дадзеныя ўстановы перапрафіляваць для лячэння дзяцей, пацярпелых ад радыактыўных забруджванняў.

Вось калі б мы ўсе разам гэтага дамагліся, то тады беларускія чыноўнікі нарэшце б зразумелі, што сапраўды ў нашай краіне "что-то не так".

***Рыгор Кастусёў***

## Не повезло жителю Куяра

3 марта Следственным комитетом возбуждено уголовное дело по ст. 205 ч. 1 УК (Кража) в отношении неработающей жительницы г.п. Белыничи, 1977 г.р., которая 20 февраля около 6-00, находясь в доме знакомого по ул. Сосновой, похитила 41 270 руб. ЦБ РФ, 300 долларов США у жителя пос. Куяр РФ, 1963 г.р. Похищенное изъято. Мера пресечения не избиралась. Раскрыто ОУР, сообщает uvd.mogilev.by.

# ЖАЛУЙТЕСЬ! ЭТО ПРОСТО!

***В 2012 году вступил в силу Закон Республики Беларусь «Об обращениях граждан и юридических лиц», систематизирующий законодательство в области обращений граждан и юридических лиц в государственные органы, государственные и иные организации, к индивидуальным предпринимателям.***

В сравнении с бывшим порядком Закон содержит изменения и дополнения, есть нововведения:

Руководителям госорганов, иных организаций предоставлено право применять при личном приеме граждан, их представителей, а также представителей юридических лиц технические средства (производить аудио- и видеозапись, кино- и фотосъемку). Однако заявитель должен быть уведомлен об этом до начала личного приема.

Как же без интернета в XXI веке? Наконец-то урегулирован порядок составления и рассмотрения электронных обращений, поступающих на адреса электронной почты либо размещенных на официальных сайтах организаций. Электронные обращения должны содержать те же сведения, что и письменные обращения, но вместо личной подписи необходимо указывать адрес электронной почты заявителя.

Электронные обращения, поступившие в госорганы и государственные организации, рассматриваются в порядке, установленном для письменных обращений, но с некоторыми особенностями; в иные организации – по решению руководителя организации в определяемом им порядке.

Ответы на электронные обращения, а в необходимых случаях уведомления о продлении сроков их рассмотрения будут направляться на указанные адреса электронной почты. Письменный ответ (письменные уведомления) на электронное обращение будет составляться в том случае, если:

заявитель просит направить письменный ответ (письменное уведомление);

в электронном обращении отсутствует адрес электронной почты;

руководителем госоргана или иной государственной организации, рассматривающих электронные обращения, либо уполномоченным им лицом принято решение о направлений письменного ответа (письменного уведомления).

Установлены требования к письменным ответам на письменные обращения: они должны быть обоснованными и мотивированными (при необходимости – со ссылками на нормы актов законодательства), содержать конкретные формулировки, опровергающие или подтверждающие доводы заявителей. Стоит обратить внимание, что ответы должны будут составляться на языке обращения (русском или белорусском).

Такие же требования будут предъявляться к ответам госорганов, государственных организаций на электронные обращения.

Организации, в которые поступит письменное обращение по вопросам, не относящимся к их компетенции, вправе оставить его без рассмотрения по существу. При этом не нужно перенаправлять подобные обращения в организации в соответствии с компетенцией, как это требовалось раньше. О принятом решении необходимо уведомить заявителя в пятидневный срок, вернуть ему оригиналы документов, приложенных к обращению, а также разъяснить, в какую организацию и в каком порядке следует обратиться для решения изложенных в обращении вопросов.

Определен единый срок для рассмотрения письменных обращений (в том числе, записей в книге замечаний и предложений) – не позднее 15 дней, а если требуется дополнительное изучение и проверка – не более одного месяца, если иной срок не установлен законодательными актами.

Сохранен обязательный досудебный порядок обжалования ответов на обращение (решений об оставлении обращения без рассмотрения по существу) организаций, подчиненных госоргану, иным организациям или входящим в их состав (систему): в суд можно обращаться только после обжалования в вышестоящий орган




(организацию). Однако обжаловать в суд ответ вышестоящего органа (организации) можно, только если он принял новое решение, относящееся к его компетенции. В противном случае в суд следует обжаловать ответ той организации, которая изначально его давала. Ранее в суде могло быть обжаловано любое решение вышестоящего органа (организации), даже если он поддерживал ранее принятое решение.

Персональную ответственность за ненадлежащую работу с обращениями несут руководители организаций, индивидуальные предприниматели. Стоит напомнить, что за нарушение законодательства об обращениях граждан и юридических лиц предусмотрена административная (штраф от 4 до 20 базовых величин), а за преследование граждан за критику – уголовная ответственность.

«Под лежачий камень вода не течет»! Жалуйтесь и защищайте свои права и законные интересы.

***Иван Титов***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# У БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ РАСКАЖУЦЬ ПРА СУДЗІМАСЦІ КАНДЫДАТАЎ У ДЭПУТАТЫ

*(Заканч. Пачатак на стар. 3)*

- выказвае меркаванне Барыс Вырвіч. – У іншым выпадку самы просты варыянт – апублікаваць дадзеныя ў раённай газеце “Зара над Друццю”, наклад якой складае 4200 асобнікаў, і якую могуць прачытаць большасць выбаршчыкаў Бялыніцкага раёна. На райвыканкамаўскі ж сайт, тым больш у раздзел “Выбары”, заходзяць лічаныя людзі. Інфармацыйныя матэрыялы пра кандыдатаў таксама прачытае не так шмат людзей. Навошта выбаршчыкаў бударажыць, людзі ў Бялыніцкім раёне і так шырока абмяркоўваюць апублікаваную ў газеце інфармацыю пра прыбыткі кандыдатаў-начальнікаў, навошта ім яшчэ і пра судзімасці нагадваць”.

Нагадаем, што бялыніцкі журналіст Барыс Вырвіч раней паспрабаваў высветліць у раённай выбарчай камісіі, чаму выбарчая камісія не надрукавала дадзеныя пра судзімасці кандыдатаў у дэпутаты ў раённай газеце “Зара над Друццю”, аднак тады нейкага зразумела адказу яму ў камісіі даць так і не змаглі.

У надрукаваных звестках пра кандыдатаў газета “Зара над Друццю” не ўказала на маючыяся судовыя пакаранні ў намесніка дырэктара ААТ “Новая Друць” Уладзіміра Канавалава, прадаўца магазіна “Каравай” Ганны Арахоўскай і ў лесніка Цяхцінскага




лясніцтва Анатолія Ціхановіча.

Дарэчы, кандыдат у дэпутаты Бялыніцкага райсавета Уладзімір Канавалаў з’яўляецца шырока вядомай ў Магілёўскай вобласці асобай. Ён шмат гадоў працаваў на розных кіруючых пасадах, у тым ліку даволі працяглы час узначальваў Клімавіцкі райвыканкам. У 2005 годзе Уладзімір Канавалаў быў асуджаны Гомельскім абласным судом да 4 гадоў пазбаўлення волі за перавышэнне службовых паўнамоцтваў.

Па некаторай інфармацыі, зараз Уладзімір Вінідзіктавіч рыхтуецца заняць яшчэ адну значную кіруючую пасаду…

***Багдан Іваноў***







## ВОДКУ НАДО БЕРЕЧЬ

5 марта Следственным комитетом возбуждено уголовное дело по статье 205 часть 2 Уголовного Кодекса (Кража) в отношении пенсионерки, жительницы д. Светиловичи Белыничского района, 1957 года рождения, которая 24 февраля из дома односельчанки, пенсионерки, 1939 г.р., путём вырывания пробоя входной двери похитила спиртные напитки. Мера пресечения не избиралась. Раскрыто ОУР, сообщает uvd.mogilev.by.

## 20 ЛЕТ ТЮРЬМЫ ЗА УБИЙСТВО

Наша газета в свое время писала об ужасном убийстве, произошедшим в Шкловском районе летом 2013 года . Тогда вблизи деревни Займище был обнаружен сгоревший автомобиль с обгоревшими останками человека. Три молодых человека для решения своих финансовых проблем заманили в свою компанию местного пенсионера и убили его с особой жестокостью. 19-летний житель Горецкого района (осужден на 20 лет лишения свободы), ранее судимый за нанесение тяжелых телесных повреждений, и двое 16-летних местных жителя (одна из них девушка, учащаяся лицея №12 г.Шклова) решили за счет пенсионера сначала выпить, а потом более основательно поправить материальное положение. Интересно, что камень с поля, которым добивали пенсионера, принесла девушка.

Погибший, который характеризовался положительно, был заслуженным работником, проживал в Могилеве, а в Шкловском районе имел дачу, на которую и приехал поработать и отдохнуть. Убийство потрясло знавших покойного людей, но и поставило массу вопросов о причинах преступления, об эффективности воспитания молодежи. На многие из них ответов не было вчера, нет и сегодня.

Во всяком случае, почему такое случилось именно в нашем районе, не могут до сих пор понять ни односельчане малолетних преступников, ни преподаватели лицея, ни родственники. Это стечение обстоятельств или все-таки прослеживается определенная закономерность в этом криминальном происшествии? На самом же деле обществу нужно знать первопричины убийства и где искать мотивы – качество воспитания в семье, недоработки системы образования, недосмотр местных властей? Или может наше общество становится таким, в том числе и безразличным к судьбе молодых людей. По сути, еще дети изза призрачного счастья обладания чужими деньгами уготовили себе кошмарную судьбу на 12 лет тюрьмы. А может и на всю оставшуюся жизнь.

***Валентина Добрая***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 10.03. 2014 г. у 08-00.